Мікола Яцкоў



# Кола года



Вясна

Лета

Зіма

Восень



**Яцкоў, М.**
Кола года. Вершы / Мікола Яцкоў. – Брылі: Справа, 2013. – 32 с.

Новая кніга паэзіі Міколы Яцкова «Кола года» – гэта вандроўка не толькі па прыродных з'явах пораў года, але і погляд на адвечнае кола жыцця, дзе заўсёды ёсць месца і каханню, і ўспамінам, і роздуму над існасцю.



## *ПРАДЧУВАННЕ ВЯСНЫ*

**Зіме пазык**
**ужо не прапануюць**
**старыя служкі**
**лёдавых аблог, --**
**таму і лік**
**заснежаны руйнуюць**
**даўгія стужкі**
**новых засцярог.**

**Зыход зімы**
**загоіць заняпады**
**і я ізноў**
**з палёгкай уздыхну;**
**ў свае дамы**
**паклічу ўсе прынады,**
**каб з маразоў**
**узнесціся ў вясну.**



**Галчыных гнёздаў**
**папахі лахматыя**
**грэюць галовы**
**азяблым бярозам…**
**Будзе ўсё проста,**
**і знікнуць над хатамі**
**снежныя словы,**
**зімовыя слёзы...**



## *ЗАМАЛЁЎКА*

**Сёння лазня ў нашых галак -
пырскі з лужыны ляцяць;
галкі млеюць там кагалам
і па-свойму лапацяць -
распачалі, бач, нараду,
каб кансэнсус той знайсці
і з зімовага раскладу
на вясновы перайсці.**



**Напэўна, аслеп каляндар –
аб нейкай вясне ўсё балбоча;
а сівер па даху грукоча,
смяецца, шалёны, у вочы –
ён сёння яшчэ гаспадар.**



**Абдымі, заціхні і ўглядзіся**
**ў надыход вясны доўгачаканай...**

**Выдзьмувае сонечны наш ранак**
**дзён былых скамечанае лісце,**
**і ізноўку будучыня меціць**
**залатую, стрыманую згоду...**

**Мне нясеш далоняў прахалоду**
**толькі ты, адзіная ў сусвеце.**



*Памяці Аркадзя Паўловіча*

**Дачакаўся вясны і пайшоў**
**да прадзедавых белых жытоў,**
**у бязмежжа, дзе Ліда-каханка**
**ўсё глядзіць з-пад далоні ля ганка,**
**а на вуснах - маўклівы папрок:**
**"Ну, нарэшце, а мой ты дзядок!.."**



**Зіма зышла…**
**Вясна!..**
**І яблык першы**
**ў тваёй руцэ спакусліва дрыжыць.**
**І для цябе адной – маленне вершаў,**
**бо толькі ты мне дазваляеш жыць.**



*Глебу Хмялёву*

**Заўжды пільнуюць нас турботы –**
**ды, часам, так, што не ўздыхнуць.**
**Але вясна знясе гароту,**
**і ты ўсміхнешся, дружа, потым**
**над *тым* імкненнем не задзьмуць**
**агонь адносінаў сур'ёзных**
**да мітуслівасці жыцця.**
**Вясна!**
**Віруюць сок бярозы...**
**Твой дзень...**
**Чаканне адкрыцця.**



*Кастусю Арцямкову*

**І нанова красавік пачне адлік,**
**і ад гэтага, мой браце, не ўцячэш...**
**А наперадзе – схаванага падлік,**
**а калі – ніхто не ведае яшчэ.**

**Будуць дні красавіковых завірух,**
**будзе лёсу падуладны шлях,**
**і – маўклівых нашых продкаў круг,**
**нашай хаты непарушны дах.**



**У зялёным полымі траўня**
**дагараюць зімовыя рэшткі;**
**недзе белае знікла бяспраўе**
**і душа ажывае нарэшце,**
**і ў вачах залацяцца зоркі –**
**нібы злодзей, я скраў іх з неба…**
**Будзе добра, не будзе горка,**
**не памрэ да жыцця патрэба.**





**І не шкадуе чэрвень сонца**
**поўных жмень,**
**і зноў пастукаўся ў аконца**
**гэты дзень,**
**і ўсё ляціць па хвалях лёсу**
**ветразь твой,**
**і шамацяць кахання плёсы**
**за табой…**



## *ПЕРАД КУПАЛЛЕМ*

**Падоўжым той дзень**
**да купальскай спакусы.**
**Абдурым гадзіннік.**
**Пакрыўдзіцца сон.**
**І некалькі жмень асалоды –**
**на вусны,**
**і папараць-кветцы –**
**апошні паклон.**



# *ШТО ПАТРЭБНА ПАЭТУ?*

Хадзі пасядзі з паэтам
Хвіліну, а можа, дваццаць.
Калі на зыходзе лета,
Манашкай нашто здавацца?
*Мікола Шабовіч.*

**А лета – ой-ёй! – праляцела, –**
**Зусім не было нічога:**
**Хаваеш сваё ты цела,**
**Глядзіш на мяне ты строга.**

**А я жа паэт, мне – трэба,**
**Мне хопіць і паўхвіліны…**
**Змагу я пражыць без хлеба,**
**Але ж не змагу без дзяўчыны!**



**Бурчыць тамбурынам
счарнелае неба –
ідзе навальніца.
Хвіліна – і грымне!
Дай, Божа, бо – трэба
напіцца й пазбыцца
спякоты бясконцай,
і зданяў падманных,
і смагі адвечнай…
А потым хай сонца
прысядзе на ганак
і скажа аб нечым.**



*Анатолю Шпількову*

**Золата напеву –**
**зноўку лістапад.**
**Сцішыліся дрэвы –**
**хутка новы лад.**

**І цябе ізноўку**
**памяць агарне –**
**кіне у вандроўку**
**па былой мане...**

**Золата на белым –**
**твой пад снегам гай...**
**Што было – адпела,**
**што ідзе – чакай.**



**Восень майго жыцця –**
**тут і цяжар, і палёгка...**
**Хутка зіма-свацця**
**плечы абдыме дрогка.**

**А за зімою вясны,**
**пэўна, ужо не будзе –**
***там* аб дзяцінстве сны**
**сціснуць мае грудзі.**



## *УСПАМІН ДЗЯЦІНСТВА*

**Зіма. Завея. Снег да даху.**
**І чорны вецер за акном.**
**Жах забіраецца пад паху**
**і спіць, скруціўшыся клубком.**
**А нехта ў коміне спявае –**
**аднекуль, мабыць, заляцеў**
**і твар у поцемках хавае**
**у тым закураным куце...**



**А што мы там бачым?**
**А хто нас вітае?**
**І ці дачакаемся нечага мы?..**
**Там чорная ружа ўначы расцвітае**
**сярод непарушнай, бясконцай зімы.**



**Да радзімы бліжэй,**
**а на сэрцы цяжэй,**
**і нічога не зробіш тут, браце.**
**Маразы надышлі,**
**і снягі замялі**
**нават комін на нізенькай хаце...**



**Вось яно – побач,**
**а ўзяць – немагчыма.**
**Дзве рукі поруч –**
**здаецца, учынак.**
**Нешта наяве –**
**а веры няма...**
**Прыйдзе і збавіць**
**ад тлуму зіма.**



**Нечакана падкоціць зіма
і пабеліць маю галаву.
А прыпынку яшчэ няма,
ды й калі да яго даплыву?
Адгучаў маладосці смех,
і кахання касцёр згарэў…
Белым попелам падае снег
на счарнелыя коміны дрэў.**



**Пад снягамі ляжыць Айчына,**
**як знясіленая жанчына....**



**Сказаць жадаю –**
**слоў няма.**
**Хачу спяваць –**
**прапалі ноты.**
**Вясну шукаю –**
**ды зіма**
**мае расхрысціла вароты…**

# Змест

*Прадчуванне вясны* ........................................ 5
*«Галчыных гнёздаў папахі лахматыя...»* ........ 6
*Замалёўка* ........................................................ 7
*«Напэўна, аслеп каляндар...»* ........................... 8
*«Абдымі, заціхні і ўглядзіся...»* ......................... 9
*«Дачакаўся вясны і пайшоў...»* ......................... 10
*«Зіма зышла...»* ................................................. 11
*«Заўжды пільнуюць нас турботы...»* .............. 12
*«І нанова красавік пачне адлік...»* .................... 13
*«У зялёным полымі траўня...»* ........................ 14
*«І не шкадуе чэрвень сонца поўных жмень...»* 17
*Перад Купаллем* ................................................ 18
*Што патрэбна паэту?* .................................... 19
*«Бурчыць тамбурынам счарнелае неба...»* ...... 20
*«Золата напеву - зноўку лістапад...»* ............. 23
*«Восень майго жыцця...»* ............................... 24
*Успамін дзяцінства* ....................................... 27
*«А што мы там бачым...»* ............................. 28
*«Да радзімы бліжэй...»* ................................... 29
*«Вось яно - побач ...»* ....................................... 30
*«Нечакана падкоціць зіма ...»* ......................... 31
*«Пад снягамі ляжыць Айчына ...»* ................. 32
*«Сказаць жадаю - слоў няма ...»* ...................... 33





Мікалай Адамавіч Яцкоў нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 г. працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.

Выдаў зборнікі вершаў «Кракаўскія сшыткі», «Хрышчацік», «Міколавы прыпеўкі». Перакладчык. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за тысячу песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў «Гронка бэзу» (на вершы Т.Ляшонка), «Знічка» (на вершы І.Карэнды), «На вайсковыя матывы» (на вершы Я.Купалы), «Родныя вобразы» (на вершы Я.Коласа), «Птушка залатая» (на вершы А.Куляшова), «Мае сны без цябе пустыя...» (на вершы Э.Акуліна) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”.

Літаратурна-мастацкае выданне

**Яцкоў Мікалай Адамавіч**

***Кола года***
Вершы

Рэдактар - А.М.Яцкова
Каардынатар праекта - Ю.М.Яцкова
Фармат 14,85 х 10,5.
Гарнітура Times New Roman
Друк HP Laser Jet P2035

*Падрыхтоўка і паліграфічнае выкананне*




№ 85
2.06.2013 г.
*213107 в.Брылі, Магілёўскі раён, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

